**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 35 (803) 27 жніўня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



**22 жніўня на глыбоцкім стадыёне адбыўся матч Чемпіянату Віцебскай вобласці па футболе паміж блізкімі геаграфічнымі суседзямі і суседзямі па турнірнай табліцы камандамі ФК "Глыбокае" (Глыбокае) і "ПМЦ" (Паставы). Вынік – 1:0 на карысць гаспадароў.** Працяг тэмы на стар. 4.
*Фота Ул. Скрабатуна.*

## Ад 25 жніўня і да 5 верасня машыны мусяць ездзіць з уключаным бліжнім святлом

З 25 жніўня да 5 верасня ў краіне праходзіць комплекснае мерапрыемства «Увага — дзеці!». Мэта — прафілактыка здарэнняў з удзелам малых. Падчас правядзення акцыі кіроўцы павінны перасоўвацца на транспартных сродках з уключаным блізкім святлом.

ДАІ заклікае кіроўцаў быць максімальна ўважлівымі ў дварах і каля школ.

*ДАІ.*

## Страшнае забойства ў Паставах

**Нованароджанага дзіцяці забіла маладая маці ў Паставах. Узбуджана крымінальная справа па арт.140 Крымінальнага кодэкса Беларусі.**

18 жніўня ў бальніцу паступіла дзяўчына з пасляродавым крывацёкам, паведамляе БелТА са спасылкай на праваахоўныя органы Беларусі. Лекары не змаглі высвятліць, дзе дзіця, і перадалі інфармацыю ў раённы аддзел унутраных спраў.

Супрацоўнікі міліцыі знайшлі ў кватэры, дзе жыла жанчына, труп немаўля са шматлікімі колата-рэзанымі ранамі. Маці закалола нованароджаную дзяўчынку, якую нарадзіла 18 жніўня каля 17.00.

*БелТА.*



ISSN 2077-8023



Шумілінскі раён

# Зямля прыняла салдат

■ Станіслаў Раманчук.

**Нездарма сцвярджаюць, што любая вайна заканчваецца толькі тады, калі знаходзіць вечны спакой апошні загінулы на ёй салдат.**

Хоць і засталіся ў мінулым юбілейныя ўрачыстасці з нагоды 70-годдзя Вялікай Перамогі, напрыканцы лета паблізу вёскі Мікалаёва Шумілінскага раёна былі знойдзены астанкі яшчэ 9 чырвонаармейцаў, якія да гэтага часу лічыліся прапаўшымі без звестак. Менавіта летам 1941 года часці Савецкай арміі імкліва адступалі пад моцнымі ўдарамі гітлераўцаў і неслі вялікія страты жывой сілы і баявой тэхнікі. Таму ў гэтай мясцовасці ваеннаслужачыя асобнага 52-га пошукавага батальёна сумесна з прадстаўнікамі германскай грамадскай арганізацыі па доглядзе за воінскімі пахаваннямі ў Беларусі правялі неабходныя работы і адшукалі медальёны, па якім устанавілі прозвішчы чатырох загінулых. Трое з іх былі прызваны на фронт з Башкірыі, а салдат Сямён Анянаў – з Пермскага краю. Двум самым старэйшым з іх на той момант споўнілася толькі па 25 гадоў. З дапамогай расійскіх краязнаўцаў удалося выйсці на родных аднаго з загінулых малады чырвонаармейцаў, а вось пяцёра салдат так і ляглі днямі ў брацкую воінскую магілу ў вёсцы Троліна безымяннымі. З гэтай нагоды там сабралася шмат мясцовых жыхароў, прадстаўнікоў грамадскасці, воінаў 103-й мабільнай брыгады і моладзі, адбыўся ўрачыста-жалобны мітынг. Па загінулых за вечны спакой іх душ памаліўся святар, на надмагільную пліту ляглі шматлікія вянкі і кветкі. У гонар загінуўшых салдат прагучаў воінскі збройны салют, а праца па выяўленні імён невядомых воінаў прадоўжыцца, бо да гэтага часу не ўстаноўлены прозвішчы звыш 2 тысяч пахаваных салдат на гэтай зямлі.

Талочынскі раён

# Зноў не пашанцавала Ільічу

■ Чэслаў Якубовіч.

**Усё меней часу застаецца да дня правядзення чарговага абласнога фестываля-ярмаркі працаўнікоў вёскі "Дажынкі-2015", які пройдзе сёлета восенню ў Талачыне.**

Многіх жыхароў райцэнтра засмуціла тое, што асноўныя мерапрыемствы свята вырашылі праводзіць не ў выхадныя, а ў працоўны дзень, гасцей сустрэнуць тут у пятніцу 25 верасня. У адрозненне ад папярэдняй сталіцы Дажынак – Гарадка, гэтаму гораду на ўсходзе вобласці яшчэ болей не пашанцавала з фінансаваннем работ на запланаваных 95 аб'ектах. Таксама як і ў іншых месцах, у Талачыне бюст ідала бальшавікоў Леніна прыйшлося прыбраць з цэнтральнай плошчы ў гарадскі сквер. Канешне, і тут пастараліся, каб гэты райцэнтр змяніўся, папрыгажэў, аднак эканамічны крызіс унёс свае карэктывы. З пачатку года грошай на "Дажынкі" ўвесь час не хапала, фінансаваліся расходы на рэалізацыю праекта са скрыпам. Толькі на 41 фестывальны аб'ект выдзелілі сродкі з абласнога і мясцовага бюджэтаў, а на астатнія грошы павінны былі выдзеліць мясцовыя прадпрыемствы і арганізацыі. Аднак іх фінансавае становішча незайздроснае і рэканструкцыя многіх аб'ектаў адкладзена на наступныя гады. Прыйшлося нават збіраць пазачарговую сесію абласвета дэпутаў і ўносіць змены ў расходы абласнога бюджэту. Гораду дадаткова накіравалі сродкі ў памеры 2,6 млрд. рублёў з рэсурсаў сістэмы ЖКГ на гэты год на абнаўленне інфраструктуры цэнтральнай часткі Талачына. Дадатковыя сродкі выдзеліла вобласць і на рамонт фізкультурнааздараўленчай залы, планы стварэння на яе базе басейна яшчэ не хутка ажыццявяцца. У самім жа райцэнтры працы яшчэ вельмі шмат, а цэнтральная вуліца Леніна, па якой пройдуць калоны перадавікоў жніва, пакуль месцамі выглядае непрывабна і нагадвае болей будаўнічую пляцоўку.

Пастаўскі раён

# Яшчэ не пераваліся мужыкі

■ Кастусь Александровіч

**У вельмі многіх цяперашніх гараджан застаюцца вясковыя карані, а таксама атрыманая там працоўная загартоўка, іх прыцягвае праца на зямлі.** Вось і ў Пастаўскім раёне ўраджэнец вёскі Жылінскія, цяпер прадпрымальнік Пётр Кароль адрадзіў некалькі гадоў спаборніцтвы па ручной касьбе траў. Яны сталі вельмі папулярнымі, ператварыліся ў сапраўднае культурна-спартыўнае свята на ўлонні прыроды, а лепшыя мясцовыя касцы паспяхова выйшлі ўжо і на міжнародны ўзровень. Яны нядаўна зрабілі сапраўдны фурор на прадстаўнічым міжнародным турніры на Урале, дзе працуе адзіны ў Расіі завод па вытворчасці кос. Там сярод 80 удзельнікаў у фінале лепшы вынік паказаў пастаўчанін Валерый Каліцкі, а сярод жанчын касцоў не было роўных таксама беларусцы Наталлі Сабчук. Услед за гэтым мясцовых касцоў запрасілі і на юбілейны X чэмпіянат Еўропы па ручной касьбе траў, які прайшоў на Брэстчыне і супаў з традыцыйным экалагічным фестывалем на Палессі "Спораўскія сенажаці". Туды пастаўчане прывезлі ўвогуле вельмі прадстаўнічую дэлегацыю і выставілі на спаборніцтвы адразу пяць каманд па два касцы ў кожнай. Як і летась, свой высокі клас пацвердзіла самая вопытная каманда ў складзе В. Каліцкага і яго напарніка, падпалкоўніка запасу Мікалая Яльчыка, які нядаўна ўзначаліў Курапольскі сельсавет. Гэта каманда пастаўчан у Еўропе сярод касцоў стала другой, а былы вайсковец у індывідуальным заліку заняў ганаровае 3-е месца. Абодва спрактыкаваныя касцы запрошаны цяпер паўдзельнічаць і на сусветным першынстве, якое пройдзе восенню ў Польшчы.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 27.08.15 | | | | Пятніца 28.08.15 | | | | Субота 29.08.15 | | | | Нядзеля 30.08.15 | | | | Пан. 31.08. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +16 | +18 | +23 | +19 | +18 | +18 | +24 | +23 | +17 | +15 | +23 | +18 | +14 | +15 | +23 | +18 | +13 | +16 | +25 |
| Ціск | 750 | 750 | 750 | 749 | 748 | 747 | 745 | 742 | 746 | 749 | 750 | 750 | 751 | 753 | 754 | 753 | 753 | 752 | 750 |
| Вецер м/сек | 3 З | 3 Ю-З | 3 З | 2 Ю-З | 4 Ю | 5 Ю | 4 Ю | 7 Ю-З | 6 С-З | 6 З | 9 З | 7 З | 6 З | 7 С-З | 7 С-З | 4 С-З | 2 З | 2 Ю-З | 3 Ю |
| Вільготнасць | 85 | 83 | 50 | 77 | 66 | 74 | 59 | 69 | 83 | 90 | 38 | 52 | 72 | 84 | 45 | 58 | 85 | 76 | 37 |

# Аб самым надзёным

## Толькі варвары могуць знішчаць "санкцыйныя прадукты", калі ў беднасці і нават галечы жывуць мільёны простых расіян



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Як вядома, ужо ў першы дзень новай акцыі рускіх чыноўнікаў у розных кутках гэтай псеўдаімперыі было знішчана больш 300 тон "варожай" ежы на суму звыш 3 млн. рублёў. Такое рашэнне выклікала зразумелы пратэст нават у расійскім грамадстве, каля 300 тысяч людзей у сацсетках абурыліся гэтым дзіўным крокам.**

Другі год запар ва ўсім свеце рэзка пагаршаюцца адносіны большасці замежных грамадзян да агрэсіўнай Расіі, найперш – да яе кіраўніцтва. Сёлета ў жніўні яны сталі яшчэ больш пагардлівыя, калі расійскі кіраўнік-гебіст У. Пуцін падпісаў адыёзны ўказ аб знішчэнні прадуктаў харчавання, якія падпадаюць пад уведзенае Крамлём эмбарга. Як вядома, ужо ў першы дзень новай акцыі рускіх чыноўнікаў у розных кутках гэтай псеўдаімперыі было знішчана больш 300 тон "варожай" ежы на суму звыш 3 млн. рублёў. Такое рашэнне выклікала зразумелы пратэст нават у расійскім грамадстве, каля 300 тысяч людзей у сацсетках абурыліся гэтым дзіўным крокам, палічылі нават грахом знішчаць людскую працу па хрысціянскай традыцыі.

Так, сапраўды, суседняя Масковія зараз уступіла ў зацятую халодную вайну з ненавісным буржуйскім Захадам і, напэўна, ад свайго бяссілля і злобы вырашыла зноў паказаць яму "кузькіну маму" за кошт сваіх жа суайчыннікаў. Нават расійская газета бізнес-кругоў "Ведомости" абурылася і назвала пуцінскае рашэнне "демонстративным варварством", з чым я абсалютна згодны і такім чынам назваў гэты артыкул. За год пасля анексіі Крыма, хто не разабраўся, жыццё многіх дзясяткаў мільёнаў рускіх людзей толькі пагоршылася, што і зафіксаваў беларускі журналіст у Смаленскай вобласці, дзе сфатаграфаваў, як людзі корпаюцца там на сметніку і падбіраюць у сумкі тое з ежы, што не ўдалося расціснуць бульдозерам.

Праўда, неўзабаве ўваход на гэты палігон адыходаў закрылі і перасталі пускаць туды бедны народ, які шмат дзе ў расійскай глыбінцы перабіваецца з хлеба на ваду і не можа нармальна харчавацца. Аднак і наша Беларусь таксама з-за праводзімай Крамлём палітыкі атрымала толькі ўсеабдымны працяглы эканамічны крызіс, які толькі пачынаецца і невядома калі для нас закончыцца. Летась нашы ўлады разлічвалі добра зарабіць на пастаўках у Расію дадатковых прадуктаў харчавання. На справе ўсё атрымалася па-іншаму. Расійскі рубель яшчэ летась рухнуў і дагэтуль працягвае слабець і з-за ягонай дэвальвацыі беларускі АПК страціў летась звыш 360 млн. доляраў экспартнай выручкі.

Акрамя гэтага і супраць Беларусі расійскі ветэрынары ўводзілі розныя санкцыі, знаходзілі нібыта нейкія шкодныя рэчывы ў прадукцыі больш чым 20 беларускіх мяса і малочных заводаў. Па гэтай прычыне беларусы яшчэ згубілі больш 100 млн. доляраў, гандлюючы са сваім капрызлівым "саюзнікам". Пытанне з пастаўкамі на расійскі рынак сырой айчыннай свініны дагэтуль не вырашылася, адпаведныя дазволы атрымалі толькі 4 беларускія мясакамбінаты. У адрозненне ад той жа Расіі, беларусы не толькі сябе могуць пракарміць, яшчэ каля 60 % выраблянага мяса і малака ідзе ў нас на продаж за мяжу.

Нам бы радавацца толькі з гэтай нагоды, але не выпадае. Вось і сёлета ў першым паўгоддзі Беларусь павялічыла пастаўкі суседзям мяса, а малочных прадуктаў нават на 21 %. На жаль, у дзяржказну наша краіна атрымала валютнай выручкі ў студзені-чэрвені на асноўным сваім рынку збыту на 20 % меней, альбо зарабіла 1,515 млрд. доляраў. Ды яшчэ і нашы беларускія сыры, яблыкі, грыбы могуць таксама патрапіць пад нож бульдозераў ці згарэць на агні. Каб не несці страты, беларускія вытворцы пакрысу пачалі адгружаць прадукты харчавання ў іншыя краіны Еўропы, Азіі, Акеаніі і ў Афрыку. Разлікі пуцінцы нанесці шкоду еўрапейскім і амерыканскім фермерам таксама праваліліся, па ЕС сёлета экспарт сельгаспрадукцыі павялічыўся на 5 %.

Не паўплывалі расійскія контрсанкцыі і на нашых суседзяў-палякаў, якія актыўна сталі гандляваць з намі, Украінай, знайшлі збыт для свайго малака, мяса і яблыкаў у цэлым па свеце. А рускія хай кусаюць сябе за локаць, бо харчаванне ў іх моцна падаражэла, асартымент прадуктаў значна зменшыўся. У гэтай гісторыі трывожыць іншае. Зразумела, моцна карумпаваны расійскі алігархічны ўрад вельмі далёкі ад свайго простага народа.

Расійскія міністры і іх прыбліжаныя елі і будуць прагігваць есці толькі дэлікатэсы, маючы шматтысячныя доларавыя заробкі. Аднак як мог цяперашні расійскі правадыр, сям'я якога моцна галадала ў блакадным Ленінградзе і страціла старэйшага сына, і які ведае пра моцны галадамор у Паволжы рашыцца на такі зморчны крок паліць і знішчаць сыры і каўбасы? Ці толькі на гэтым адстаўны палкоўнік можа спыніцца? На жаль, Крэмль цяпер уцягнуў расійскі народ і ў пэўнай ступені і нас зноў у халодную вайну з цывілізаваным светам. Справа ў тым, што ўслед за гэтым масавым знішчэннем "шкоднай" ежы ўжо зусім нямнога засталося і да вар'яцкага рашэння пачаць знішчаць тых, хто гэтыя прадукты выбраляе. Як бы ўпраўленцы Расіі не надзьмувалі свае шчокі, а заходнія санкцыі працуюць і робяць сваю справу, жыццё пакуль 40 % простых расіян толькі пагаршаецца (ежа за год падаражэла на 27-40%). Яшчэ не хутка рускія змогуць сябе самі пракарміць і таму асобныя прадукты ў іх на фоне знішчэння ежы могуць яшчэ болей падаражэць і стаць нават дэфіцытам. І самае страшнае, што можа чакаць неўзабаве нашых суседзяў: Расію могуць адключыць ад сусветнай фінансавай сістэмы разлікаў за яе дзікую палітыку і за актывізацыю баявых дзеянняў на ўсходзе Украіны. Дарэчы, пуцінцы на ежы не спыняцца, яны збіраюцца забараніць імпарт больш 100 тысяч найменняў медыцынскай заходняй тэхнікі і абсталявання – ад шпрыцоў да тамографаў…

## Дзень за днём

**Курс долара пераадолеў новы гістарычны максімум – 15800 рублёў. З 1 верасня Беларусь адмаўляецца ад 2-га гатунку малака, будзе толькі экстра, вышэйшы і першы. Інфляцыя ў сярэдзіне жніўня вырасла да 7,5 %. Беларускія аўтадылеры пачалі масавыя скарачэнні персаналу з-за падзення продаж аўтамабіляў. Пасля халоднага ліпеня краіну накрыла анамальная спёка, за адны выхадныя ўтапіліся 25 чалавек. У Мінску зноў адбылося буйное адключэнне электрычнасці, нейкі час без мабільнай сувязі МТС былі мінчане і жыхары вобласці.**

# Важнейшыя навіны свету

**Іран.** Пасля рашэння ўлад краіны прадаць як мага болей нафты і газу рэзка рухнуў зноў курс расійскага рубля, даўгі расійскай кампаній выраслі да 362 млрд. долараў.

**Украіна.** Глава місіі АБСЕ Поль Пікар заявіў, што са жніўня мінулага года расійскую граніцу ў Растоўскай вобласці перасякла 21 машына з трунамі забітых рускіх ваенных.

**Германія.** З-за агрэсіі РФ ва Украіне рэзка адмоўна сталі адносіцца да Расіі ўжо 70 % немцаў і французаў, давер да Пуціна – яшчэ меншы ў Еўропе і на Блізкім Усходзе.

**Бельгія.** Каб спыніць занадта агрэсіўны Крэмль, ЕС плануе рэзка абмежаваць імпарт расійскіх энерганосьбітаў у Еўропу і нават поўнасцю спыніць закупкі расійскай нафты.

**ЗША.** Краіна ўвяла санкцыі супраць буйнейшага радовішча "Газпрама" ў Ахоцкім моры, дзе РФ думала павялічыць магутнасці свайго адзінага завода па звадкаванні газу.

**Францыя.** Пасля спынення кантракта на продаж Расіі двух верталётаносцаў "Містраль" інтарэс да іх пакупкі праявілі 13 краін свету, найбольш рэальныя - Індыя і Турцыя.

**Англія.** Пакуль Крым будзе заставацца часткай Расіі, як заявіла газета Financial Times, заходнія санкцыі супраць Расіі будуць дзейнічаць і стануць яшчэ больш жорсткімі.

**Польшча.** На пасаду новага прэзідэнта афіцыйна заступіў 43-гадовы Анджэй Дуда, ён выступіў за больш моцную прысутнасць НАТО, за стварэнне сучаснай польскай арміі.

**Расія.** Вядомы расійскі палітолаг і навукоўца А. Піянткоўскі заявіў, што Пуціна чакае палацавы пераварот, бо эліта ўсведамляе пагрозу нацыянальнай і сваёй катастрофы.

**Егіпет.** Пасля маштабных работ коштам 8,2 мільярда долараў краіна запусціла дублёр Суэцкага канала даўжынёй 35 км і забяспечыла двухбаковы рух грузавых і іншых суднаў.

**Расія.** Федэрацыя яўрэйскіх абшчын папрасіла Пуціна не знішчаць імпартныя прадукты, а перадаваць іх сіротам і бедным людзям, колькасць якіх дасягнула 24 млн. чалавек.

**Украіна.** Затрыманы пад Данецкам рускі ваенны, маёр У. Старкоў прызнаўся, што за ўдзел у вайне на Данбасе пад чужымі прозвішчамі ім выплочваюць трайныя аклады.

**Літва.** З-за моцнай канкурэнцыі беларусам, уладальнікам "Еўраопта" прыйшлося закрыць сетку з 26 сваіх магазінаў гандлёвай сеткі Frech market і звольніць персанал.

**Ватыкан.** Папа Рымскі Францыск заклікаў каталіцкіх святароў у свеце быць больш спагадлівымі да тых вернікаў, якія перажылі развод у жыцці.

**Расія.** Шок сярод расіян выклікаў факт забойства бацькам у Ніжнім Ноўгарадзе шасці дзяцей ва ўзросце да 7 гадоў і іх маці, арыштавалі некалькі паліцэйскіх за халатнасць.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** А. Лукашэнка аб'явіў аб пераводзе айчыннай эканомікі на ваенныя рэйкі, запатрабаваў ад урада напружанай працы па пошуку новых рынкаў збыту прадукцыі.

**Курапаты.** Падчас візіту ў Беларусь група прадстаўнікоў Кангрэса ЗША наведала месцы пахаванняў ахвяр сталінскіх рэпрэсій пасля сустрэчы з кіраўніком дзяржавы.

**Астравец.** У раёне пабудавалі новую аўтадарогу Р52 працягласцю 24,5 км ад райцэнтра да Ашмян і ўзводзімай Беларускай АЭС 2-й катэгорыі, яна мае развязку з трасай М7.

**Брэст.** У вобласці і на Віцебшчыне складаней усяго стала знайсці новую працу, на адну вакансію прэтэндуе па 3 беспрацоўныя, за паўгода іх прыбавілася 99,1 тысяч чалавек.

*Валожын.* Падчас жніва ад узгарання камбайна "Дон-1500" ля вёскі Ластаянцы згарэла 8 гектараў пшаніцы, у Смалявіцкім раёне так агонь знішчыў 7 гектараў трыцікале.

**Раўбічы.** Наступствы цяжкай інфекцыйнай хваробы – манануклеозу аказаліся настолькі сур'ёзнымі, што славутая біятланістка, Герой Беларусі Д. Домрачава сезон прапусціць.

**Мінск.** Беларускае прадпрыемства ВПК распрацавала новы высокамабільны супрацьтанкавы ракетны комплекс "Маскіт" для знішчэння самай сучаснай тэхнікі.

**Брэст.** Падчас небывагоднай спёкі ў абласным цэнтры зафіксавалі абсалютны рэкорд гарачыні – 36,7 градусы цяпла за ўсе часы назірання ў за надвор'ем.

**Мінск.** З-за крызісу продажы жаночай бялізны "Мілавіцы" знізіліся ў краіне на трэць, на 23 млн. еўра меней, чым год назад, холдынг звольніў сёлета 586 супрацоўнікаў.

**Чэрыкаў.** Пасля сутыкнення раніцай з каровай, збітай аўтамабілем, у райцэнтры памёр ад атрыманых траўм 80-гадовы веласіпедыст, пажылы пенсіянер.

**Мінск.** Да канца года з-за пагаршэння экспарту, як папярэдзіў эканаміст, кандыдат навук Л. Злотнікаў, долар падаражэе, але не да 20 тысяч, а да 16-17 тысяч за беларускі рубель.

**Пінск.** Супраць дырэктара гандлёвага філіяла райпо распачалі крымінальную справу за крадзёж з магазінаў сістэмы за некалькі гадоў больш 750 млн. рублёў выручкі.

**Магілёў.** Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Павел асвяціў самы вялікі ў Беларусі праваслаўны Спаса-Прэабражэнскі сабор вышынёй 60 метраў, у ім можа быць да 3,5 тысяч вернікаў.

**Мінск.** Прафесар БДУ, 63-гадовы І. Чарота абураўся, што ў Беларусі трывала ўкаранілася ў свядомасці практычна ўсіх беларусаў маладзей 30 год русафобія і пагарда да рускіх.

**Зельва.** З нагоды 105-годдзя знакамітай беларускай паэткі-патрыёткі Ларысы Геніюш у Свята-Троіцкай царкве ля яе бюста адбылася памінальная Богаслужба.

## Аплочваць паслугі «Белтэлекама» можна будзе на 5 дзён пазней



■ FINANCE.TUT.BY

**РУП «Белтэлекам» з 25 жніўня змяняе правілы платы абанентамі за тэлефон і інтэрнэт. Цяпер аплачваць паслугі трэба да 1-га чысла. Пра гэта паведамляе прэс-служба нацыянальнага аператара.**

На прадпрыемстве растлумачылі, што тэрміны змяняюцца ў сувязі з уступленнем у сілу пастановы Савета міністраў № 589 ад 2015/06/13 «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Правілы аказання паслуг электрасувязі». У іх паказана, што абаненцкая плата за бягучы месяц уносіцца не пазней за 1-га чысла наступнага месяца, плата за мясцовыя, міжгародні і міжнародныя тэлефонныя злучэнні, а таксама іншыя паслугі электрасувязі ўносіцца не пазней за 1-га чысла месяца, наступнага за месяцам выстаўлення платы за аказаныя паслугі электрасувязі.

- Такім чынам, тэрмін аплаты павялічаны на 5 дзён, - растлумачылі ў Белтэлекаме. - Калі раней трэба было аплачваць паслугі да 25 числа бягучага месяца, то цяпер - да 1 числа наступнага. Напрыклад, паслугі за жнівень можна аплаціць да 1 кастрычніка (па старых правілах - да 25 верасня. Пры гэтым парадак аплаты паслуг з авансавай формай - гэта значыць Інтэрнэт, ZALA, «Максифон» - не памяняўся.

У Белтэлекаме адзначылі, што новыя правілы пачнуць дзейнічаць з 25 жніўня. Калі абанент не згодны з імі, то ў тэрмін да 18 верасня павінен накіраваць аператару пісьмовае паведамленне, якое будзе расцэньвацца як адмова ад дамовы на аказанне паслуг электрасувязі. Аплацілі выстаўлены кошт, будзе лічыцца заключылі дадатковае пагадненне да дзейнай дамовы.

## Збор брусніц і журавін пачнецца восенню

На тэрыторыі Віцебскай вобласці брусніцы можна пачынаць збіраць з 3 верасня, а журавіны - з 10 верасня.

Такія тэрміны збору і нарыхтоўкі дзікарослых ягад установлены рашэннем Віцебскага аблвыканкама ад 5 жніўня. У мінулым годзе збор гэтых дароў лесу пачаўся 16 і жніўня 25 адпаведна.

Парушэнне ўстаноўленых тэрмінаў, прымяненне забароненых сродкаў або метадаў збору, альбо іншае парушэнне правілаў збору або нарыхтоўкі цягнуць папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры да 20 базавых велічынь (на дадзены момант 3,6 млн.руб). За аналагічнае парушэнне індывідуальнага прадпрымальніка могуць аштрафаваць на суму да ста базавых велічынь, а на юрыдычную асобу - да пяцісот базавых велічынь, нагадвае Наваполацкая гаррайінспекцыя прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

Як паведамлялі раней, на тэрыторыі ўсёй Віцебскай вобласці ўведзена забарона на наведванне лесу, які дзейнічае да гэтага часу.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Лепель.** Адразу 20 работнікаў звольніліся з КУПСХП "Лепельскае" ў пачатку жніва з-за сістэматычных затрымак зарплаты, у гаспадарцы не разлічыліся за працу яшчэ ў маі.

**Верхнядзвінск.** Вадзіцель, які перавозіў 1,5 тоны памідор з Беларусі ў Расію, угнаў аўтамабіль назад з пагранпункта на Пскоўшчыне, калі даведаўся аб знішчэнні таматаў.

**Віцебск.** З моманту наступлення спёкі ў вобласці ўдалося выявіць і патушыць на пачатковай стадыі 6 лясных і тарфяных пажараў на плошчы 3,6 гектары.

**Паставы.** З дзяржпраграмы будаўніцтва выключылі ўзвядзенне 2-й чаргі фермы з робатамі ў Коўзанах, гарадской лазні і свінафермы-рэпрадуктара ў Камаях.

**Глыбокае.** У райцэнтры адбыўся рэспубліканскі семінар па пытаннях арганізацыі работы аддзяленняў сацыяльнай дапамогі на даму з удзелам вядучых спецыялістаў Мінпрацы.

**Докшыцы.** На прайшоўшых пад Багушэўскам абласных спаборніцтвах вальшчыкаў лесу "Лесаруб-2015" першае месца заняла каманда мясцовага Бягомльскага лясгаса.

**Шаркаўшчына.** Двое жыхароў райцэнтра пойдуць пад суд за крадзёж ноччу з гадавальнага пруда рыбгаса "Навінкі" Пастаўскага раёна 103 кг элітнага карпа.

**Віцебск.** Падатковая інспекцыя прапанавала сантэхніку дзетсада аказаць "паслугу" і аштрафавала потым на 5 млн. рублёў за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць.

**Бешанковічы.** На возеры Сора перакуліўся на лодцы і трагічна загінуў 49-гадовы жыхар Віцебка, за 7 месяцаў на вадаёмах вобласці ўтапіліся 43 чалавекі, з іх пяцёра – дзеці.

**Віцебск.** Падчас купання ў рацэ Лучоса віцебскі падлетак дастаў са дна мінамётную міну часоў ІІ Сусветнай вайны, якую потым абясшкодзілі ваенныя сапёры.

**Вароны.** Паблізу абласнога цэнтра 47-гадовая жанчына за рулём Рэно не прапусціла фуру, выязджаючы з другараднай дарогі, і загінула ад лабавога сутыкнення з аўто.

**Верхнядзвінск.** З удзелам тысячы пілігрымаў у касцёле св. Тройцы ў Росіцы прайшлі ўрачыстасці памяці блаславёных святароў, якія загінулі падчас карнай аперацыі немцаў.

**Тулава.** Міліцыя пачала вышук невядомых злодзеяў, якія з прыпынку грамадскага транспарту ў рабочым пасёлку скралі ноччу біятуалет коштам 2,6 млн. рублёў.

**Віцебск.** Мастацкаму музею падараваў сваю карціну "Мой Віцебск" гендырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў, ён тут стаў мастаком.

**Браслаў.** У выдавецтве "Галіяф" выйшла грунтоўная кніга мясцовага краязнаўцы і настаўніцы Валянціны Ходас "Браслаў. Ад старажытнасці да сучаснасці".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# У Варапаеве за сродкі Еўрасаюза добраўпарадкаваюць старадаўні парк

■ Уладзімір Скрабатун

Уцмінулы чацвер – рынкавы дзень – аўтар гэтых радкоў наведаў Варапаева. Сюды, у адрозненне ад Паставаў і Глыбокага, дзе маюцца цэлыя ансамблі архітэктурных помнікаў, рэдка заязджаюць экскурсанты. Між тым, хто цікавіцца даўнінай, краязнаўствам, наведаць Варапаева варта. Ёсць на што паглядзець!

Тут захавалася цікавая забудова часоў графаў Пшаздзецкіх. Так! Калі Паставы ўдзячныя Тызенгаўзам, Глыбокае – Корсакам, то Варапаева, за сваё досыць рамантычнае аблічча, якое захавалася й да сёння, перадусім – Пшаздзецкім.

Калі б не сучасныя аўтамабілі на вуліцах, то можна было б сказаць, што Варапаева так і засталося сёння са сваімі ўспамінамі аб 1950-х гг, калі яно, пэўны перыяд, было райцэнтрам[1]. Ад таго часу тут захаваліся два дыхтоўныя будынкі ў стылі "сталінскага ампіру", па выглядзе, не памылюся – райвыканкам і райкам КПСС. Адзін – пустуе, у другім – дзіцячы садок.

[1] Назва раёна, аднак – Дунілавіцкі.



Варапаева, цэнтр. Адзін з будынкаў эпохі Рамантызму ў колішнім маёнтку Пшаздзецкіх.

Аўтар гэтай нататкі нездарма акцэнтаваў увагу на насталгію па 1950-х гг. Вельмі файна, што да Варапаева не дайшла "цывілізацыя"! Інакш, як у Глыбокім, ці па прыкладзе іншых гарадоў Беларусі, сюды прыйшлі б людзі са "шведкамі" ды паклалі б долу: сосны, бярозы, тапалі, дубы і вязы... І навокал было б – "очань красіва"! Дзякаваць Богу, усё Варапаева засталося адзіным суцэльным прыгожым і цаністым паркам! Векавыя сосны, у два абдымы, растуць тут нават у дваровых частках прыватных сядзібаў! Калі што й папілавалі, аб чым сведчаць вялізныя пні на некаторых вуліцах, – аварыйныя старыя тапалі. Было б у залік сённяшняй "мэрыі" Варапаева займець сабе такіх спонсараў як Глыбоцкі ці Пастаўскі ляскгас, якія маюць саджанцы каштоўных парод дрэваў: піхты, кедра, лістоўніц... Аднавіць страчаныя алеі. Традыцыі горада-парка варта і надалей працягваць!

У Варапаеве часткова захавалася забудова колішняга маёнтка Пшаздзецкіх. Уся забудова, якая захавалася, і тая, што не дайшла да нашага часу, была стылёва звязаная, складала адзіны ансамбль будынкаў эпохі Рамантызму! Узнікае ўражанне, што ты, раптам, апынуўся сёння ў Рызе ці Таліне, наогул у Заходняй Еўропе.

На жаль, вялікі варапаеўскі палац Пшаздзецкіх не перажыў апошнюю вайну. Застаўся толькі вялікі парк і старадаўні мост праз сухі яр, што былі некалі пры ім. Мост – у стадыі рэстаўрацыі, пра што сведчаць не толькі рыштаванні, але і рабочая бытоўка побач, з шыльдай – "Белрэстаўрацыя".

Мост, як вынікае з памятнай таблічкі, што ўжо прымацаваная, рэстаўруецца за сродкі Еўрапейскага Саюза. Уздоўж паркавай алеі – некалькі прыстойных лавак, якія таксама пастаўленыя за гэты самы кошт.

Што ў Варапаеве адразу кідаецца ў вочы? Гэта вялікая колькасць людзей на роварах! Гэта, як нейкі "мурашнік"! Калі стаць, напрыклад, на скрыжаванні вуліцаў і пачаць – з інтэрвалам у 30 секундаў – падлічваць: колькі людзей адначасова з 4-х бакоў едзе ў яго кірунку, то атрымаюцца такія вынікі: 11, 13, 19 чалавек...

У Глыбокім такога няма! Падобнае можна ўбачыць яшчэ і ў Мёрах. Куды ўвесь гэты "мурашнік" на роварах рухаецца? На працу, у касцёл, натуральна – на рынак.

– А вы фатаграфуеце для добрай справы ці кепскай?– чую жаночы голас з-за спіны. – І куды гэтыя здымкі пойдуць?

– Для добрай справы! Хачу стварыць дадатны вобраз Варапаева. Яно мне спадабалася!

І тут, па выглядзе твару спадарыні сцяміў, што яна не зразумела сэнс слова "дадатны". –"Палажыцельный",– удакладняю.

– Дарэчы, а Вы хто?

– Старшыня сельскага і гарпасялковага саветаў.

– Малойцы, што еўрасаюзаўскія сродкі на Пастаўшчыне "не праелі", а пусцілі на добрую справу – добраўпарадкаванне парку. Шкада, палац не захаваўся! Яго цяпер так не хапае Варапаеву! Ну хоць бы пад дом адпачынку, санаторый. Можна, з часам, было б яго і адбудаваць...

– Няма ў нас, на жаль, на тое цяпер інвестара...

За пяць гадзінаў знаходжання ў Варапаеве аўтару, за малым выняткам, удалося абысці ўсё мястэчка. Ля новага гатычнага касцёла, на ўсёй прылеглай тэрыторыі, адчуваецца і сёння ўплыў колішняга мосарскага ксяндза Ёзаса Булькі: сажалкі з рознакаляровымі лілеямі, скульптуры, альтанкі, масткі... Усё гэта арганічна ўпісваецца ў агульны вобраз Варапаева як горада-парка.

Дарэчы, такая дробязь: у Глыбокім, у спякотны дзень, хіба што не знойдзеш месца, дзе можна ў цянёчку адведаць халоднага піўка, нават квасу. Пасядзець, падумаць, адпачыць хвілінаў дзесяць. У Варапаеве – калі ласка – магазін-бар "Вясна". Уся вонкавая візуальная інфармацыя – на беларускай мове. І мова тут жыве не толькі на шыльдах, але і ў вуснах мясцовых жыхароў.

Наведаць Варапаева варта! Шмат дадатных эмоцый!




Парк. Памятная шыльдачка: "Гэтая лаўка была пастаўлена пры падтрымцы Еўрапейскага Саюза".



Мост у парку, які рамантуецца на сродкі Еўрасаюза. Аб гэтым сведчыць памятная шыльдачка: "Гэты мост быў адрамантаваны пры падтрымцы Еўрапейскага Саюза".



Варапаеўскі парк і адна з "еўрасаюзаўскіх" лавак у парку.



Будынак у колішнім маёнтку Пшаздзецкіх. Цяпер – варапаеўская бальніца. Гэты будынак – як мініятурная копія значна большага па памерах палаца Пшаздзецкіх, які не дайшоў да нашага часу.

# Галоўны суддзя матча ФК "Глыбокае" - "ПМЦ" Паставы згубіў заручальнае кальцо

■ Уладзімір Скрабатун

**"Матч прайшоў ва ўпартай і бескампраміснай барацьбе"** – так, напэўна, напісаў бы в.п. Яўген Самсонаў, які раней спецыялізаваўся на спартыўнай тэматыцы. Я ж не буду падбіраць эпітэты, каб апісаць матч Чэмпіянату Віцебскай вобласці па футболе паміж суседзямі ФК "Глыбокае" (Глыбокае) і "ПМЦ" (Паставы).

Цікавасць да матчаў футбольных каманд з Глыбокага і Паставаў знікла тады, калі абедзьве каманды спынілі свае выступленні ў Чэмпіянаце Беларусі. Так! У глыбоцкага і пастаўскага футбола былі некалі і зорныя часы!

Наведаць гэты матч аўтара заахвоціў пастаўскі журналіст і прэс-сакратар каманды Уладзімір Шык, які завітаў у Глыбокае.

Узровень спаборніцтваў сам за сябе кажа! Якое жахлівае відовішча! Футбольнае поле нібыта не на поўначы Беларусі, а ў выпаленай спёкай егіпецкай Сахары. Пясок перамешаны з сенам ад колішняга газона! Я разумею, што ў штаце стадыёна можа і не быць чалавека, які б сачыў за станам газона, займаўся палівам. Чаму гэтыя абавязкі не ўскладзеныя на ЖКГ? Ёсць жа і вадаправод тут, на худы канец – рэчка побач. Па-другое. Што гэта за "чэмпіянат", калі варатар каманды ідзе шукаць мячык, які вылецеў не толькі за межы поля, а нават і за межы стадыёна? І ўсе гадаюць: знойдзе ён мячык ці не? Асабліва гэта досталося пастаўскаму варатару. Няўжо нельга было арганізаваць мальцаў са спартыўных секцый, каб бегалі шукаць і падаваць мячык?

Матч амаль скончаўся, частыя атакі глыбачанаў не прыносілі выніку, усё ішло да сухой нічыёй. Аднак, Віталь Стоцік, усё ж, змог "укуліць" мячык у пастаўскую браму – 1:0.

Лепшымі ігракамі матча прызнаныя Аляксандр Жарскі з "ПМЦ", пастаўчанін, які паспеў у свой час згуляць за каманды "Рубін" (Казань) і "Хваля" (Пінск), ды Віталь Стоцік,аўтар голаў пастаўскія вароты. Дарэчы, першы матч гэтых камандаў у Паставах, які адбыўся на дзень фэсту "Звіняць цымбалы і гармонік", скончыўся нічыёй – 0:0.

Шаноўныя глыбоцкія скарбашукальнікі! Падчас гэтага матча галоўны суддзя і выканаўчы дырэктар абласной Федэрацыі футбола згубіў на футбольным полі сваё заручальнае кальцо. Можа, дапаможаце яго знайсці і ў якасці добрай волі, у знак гасціннасці глыбачанаў, вярнуць яго ўладальніку?

# Прафілактыка вострых кішэчных інфекцый

**З надыходам гарачага надвор'я павышаецца рызыка захворванняў вострымі кішэчнымі інфекцыямі (далей – ВКІ), звязаных з перадачай узбуджальнікаў праз харчовыя прадукты, з купаннем у адкрытых вадаёмах або выкарыстаннем вады з іх.**

■ **Л.В. Козел,**
*загадчык аддзела эпідэміялогіі Глыбоцкага РЦГЭ*

Улічваючы высокія рызыкі захворванняў ВКІ ва ўмовах спёкі ў летнія месяцы, нагадваем пра **пяць ключавых правілах па прафілактыцы ВКІ.**

**Падтрымлівайце чысціню:**

■ трымайце ў чысціні кухонны, сталовы посуд і сталовыя прыборы;

■ засцерагайце кухню і прадукты ад насякомых, грызуноў;

■ старанна мыйце пад праточнай вадой зеляніну, гародніну, садавіну, калі яны прызначаныя для дзяцей малодшага ўзросту, пажадана апаласнуць іх кіпячонай вадой.

**Раздзяляйце сырыя і гатовыя да ўжывання прадукты:**

■ захоўвайце прадукты ў закрытай ёмістасці для прадухілення кантакту гатовай да ўжывання і сырой прадукцыі;

■ выкарыстоўвайце асобныя апрацоўчыя дошкі і нажы для гатовай да ўжывання і сырой прадукцыі.

**Выконвайце тэхналогію прыгатавання страў:**

■ старанна прапякайце або праварвайце прадукты, асабліва мяса, птушку, яйкі, морапрадукты;

■ старанна падагравайце стравы – супы кіпяціце, мясныя і рыбныя стравы прапякайце не менш за 5 хвілін.

**Выконвайце ўмовы захоўвання і тэрміны прыдатнасці:**

■ захоўваеце харчовыя прадукты з улікам тэрмінаў іх прыдатнасці, пратэрмінаваныя выкідвайце без шкадавання;

■ не пакідайце прыгатаваную ежу пры пакаёвай тэмпературы больш чым на 2 гадзіны;

■ рыхтуйце ежу ў такой колькасці, каб ужыць яе на працягу 1-2 дзён;

■ не рыхтуйце загадзя стравы, якія хутка псуюцца, з мяса, мяса птушкі, яек, а таксама салаты, паштэты, пудынгі, кулінарныя вырабы з крэмам;

■ не захоўвайце ежу і харчовыя прадукты доўгі час нават у халадзільніку, асабліва калі герметычная ўпакоўка прадукту парушаная.

**Выконвайце правілы асабістай гігіены:**

■ мыйце рукі з мылам перад пачаткам падрыхтоўкі ежы і пасля кантакту з сырой прадукцыяй;

■ мыйце рукі пасля наведвання туалета, вяртання з вуліцы.

Учёплыя часго дарозныя мікраарганізмы, уключаючы ўзбуджальнікаў захворванняў, могуць не толькі працяглы час захоўвацца ў вадаёмах, але і інтэнсіўна размнажацца, так як у гарачае надвор'е вада добра праграваецца, дзякуючы чаму і становіцца добрым асяродкам існавання для мікраарганізмаў.

У летнія месяцы часцей за ўсё пагаршаецца бактэрыялагічная якасць вады ў вадаёмах. Таму пры купанні ў адкрытых вадаёмах або выкарыстанні вады з іх існуе рызыка заражэння ВКІ.

З мэтай прафілактыкі захворванняў кішэчнымі інфекцыямі рэкамендуем не купацца ў месцах, дзе гэта забаронена, у выпадковых вадаёмах, не ўжываць ваду з невядомых крыніц, карыстацца вадой у завадской упакоўцы.

На пляж бярыце толькі свежапрыгатаваныя прадукты ў індывідуальнай чыстай упакоўцы, вазьміце з сабой бутыляваную ваду, каб хапіла не толькі для піцця, але і для мыцця садавіны, гародніны, аднаразовыя гігіенічныя сурвэткі для рук, выконвайце простыя правілы гігіены.

**Улічваючы адпускны сезон, прыводзім некалькі рэкамендацый, як не захварэць на вострыя кішэчныя інфекцыі на адпачынку.**

Калі Вы падарожнічаеце, то знаходзіцеся ў нязвыклых для Вас умовах харчавання, адпачынку, клімату, што стварае падвышаную рызыку заражэння інфекцыйнымі захворваннямі. Не варта забываць аб мерах засцярогі падчас адпачынку, якія дапамогуць мінімізаваць рызыку заразіцца інфекцыйнымі захворваннямі.

Калі Вы едзеце ў экзатычныя краіны, рэкамендуем не старацца спрабаваць усе прапанаваныя экзатычныя стравы! Сыры фарш, які выкарыстоўваецца як прыправа, біфштэксы з крывёю, шашлыкі і іншыя мясныя стравы, недастаткова тэрмічна апрацаваныя, могуць стаць прычынай заражэння вострымі кішачнымі інфекцыямі.

Рэкамендуем харчавацца толькі ў рэстаранах, рэкамендаваных турысцкай кампаніяй, пазбягаць выпадковых закусачных і сталовых, пазбягаць харчавання з латкоў, не прабаваць на рынках разнастайную ежу, прапанаваную гандлярамі.

Садавіну перад ежай варта абавязкова старанна памыць бяспечнай вадой (кіпячонай або расфасаванай у бутэлькі) і пажадана ачысціць ад шалупіння.

Пазбягайце выкарыстання для піцця вады з выпадковых водных крыніц – калодзежаў, фантанаў, ключоў, рэк, азёр і г.д.

Пры чыстцы зубоў рэкамендуем выкарыстоўваць ваду з герметычна зачыненых бутэлек з пітной вадой, якія прадаюцца ў гатэлях.

Прыкупанні ў плавальных басейнах паспрабуйце пазбягаць патраплення вады ў поласць рота.

Асобам, якія вярнуліся з месцаў адпачынку за межамі краіны, неабходна **звяртаць увагу на стан свайго здароўя**. Пры з'яўленні першых сімптомаў кішачных інфекцый (ваніты, вадкі стул, павышэнне тэмпературы, болі ў жываце) ні ў якім разе не займацца самалячэннем, а **неадкладна звярнуцца да лекара па медыцынскую дапамогу**, абавязкова звярнуўшы яго ўвагу на знаходжанне ў той краіне, адкуль Вы вярнуліся.

**Захаванне пералічаных рэкамендацый дапаможа Вам засцерагчы сябе і Вашых блізкіх ад захворвання на вострыя кішэчныя інфекцыі.**





# Калодзеж – чыстая вада

**Пітная вада – гэта вада, прыдатная да ўжывання ўнутр, якая адпавядае ўстаноўленым нормам якасці.**

■ **Е.Э. Крывёнак,** *урач-лабарант Глыбоцкага РЦГЭ*

Для таго, каб добра сябе адчуваць, чалавек павінен ужываць чыстую, якасную ваду. Навукоўцы даўно адзначылі прамую сувязь паміж якасцю пітной вады і працягласцю жыцця. Вада, якую мы спажываем, абавязкова павінна быць чыстай. Досвед у аналізе якасці пітной вады паказаў, што да найбольш распаўсюджаных забруджвальніках вады адносяцца: жалеза, сульфаты, арганічныя злучэнні, фтарыды, солі кальцыю і магнію. Якасная пітная вада не павінна мець шкодных для чалавека рэчываў, павінна ўтрымліваць карысныя мінералы, так неабходныя для жыцця чалавека.

У сельскай мясцовасці для атрымання вады звычайна выкарыстоўваюцца падземныя крыніцы. Падземныя крыніцы ў адрозненні ад адкрытых вадаёмаў маюць перавагу ў тым, што яны праходзяць праз натуральны грунтовы фільтр і якасць вады больш падыходзіць для выкарыстання.

Шахтавы калодзеж – самы распаўсюджаны. Калі ён зроблены правільна, то дае добрую ваду, служыць доўга і просты ў эксплуатацыі. Выбіраючы месца будучага калодзежа неабходна, каб яно, па магчымасці, не залівалася талымі і дажджавымі водамі, размяшчалася ад крыніц забруджвання на адлегласці 20-30 метраў. Перад эксплуатацыяй калодзежа, а таксама пры яго ачыстцы, якая павінна праводзіцца не радзей 1 разу ў год, калодзеж неабходна ачысціць і дэзінфікаваць.

Пра бяспеку вады ў эпідэміялагічных адносінах судзяць па паказчыках: ступені агульнага бактэрыяльнага забруджвання, дапушчальных канцэнтрацыяй нітратаў, нітрытаў, аміяку. Азотазмяшчальныя рэчывы з'яўляюцца важным паказчыкам забруджвання вады, так як яны ўтвараюцца пры раскладанні бялковых рэчываў, якія трапляюць у калодзеж з гаспадарча-фекальнымі і прамысловымі адкідамі. Аміяк – прадукт бялковага распаду, таму яго прысутнасць сведчыць аб свежым забруджванні калодзежа. Нітраты сведчаць аб больш даўніх тэрмінах забруджвання. Наяўнасць аміяку, нітратаў, нітрытаў сведчыць пра відавочную ненадзейнасць крыніцы водазабеспячэння – калодзежа.

Згодна з СанПіН «Гігіенічныя патрабаванні да крыніц нецэнтралізаванага водаза-беспячэння насельніцтва», якія зацверджаныя Пастановай Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь ад 02.09.2010 г. №105 у калодзежнай вадзе абмяжоўваецца ўтрыманне нітратаў. Норма іх складае 45 мг/дм$^3$. У нашым раёне даследавана 33 пробы калодзежнай вады, неадпаведнасць устаноўлена ў 3 выпадках.

Каб ведаць сапраўдную карціну і не ставіць пад небяспеку сваё здароўе, даследуйце якасць вады ў сваіх калодзежах.

# У Лучаі адбылося бласлаўленне дзяцей і настаўнікаў на новы навучальны год



Урачыстасць адбылася ў нядзелю 23 жніўня.

Акрамя гэтага, трое дзетак прынялі ў гэты дзень Першую Камунію.

Ну, а пасля Імшы парафіян і гасцей свята чакаў святочны канцэрт. На гэты разгледачоў парадавалі сваім выступленнем гурт "Рэха" і акардэаніст-віртуоз Дзмітрый Корсак, якія ўжо стала прапісаліся на лучайскіх фэстах.

***Зміцер Лупач***




# Захавайце свой ровар!

**Летні час традыцыйна характарызуецца ростам колькасці крадзяжоў ровараў. Асноўнай прычынай здзяйснення дадзенага віду злачынства ў большасці выпадкаў з'яўляецца ўласная бестурботнасць грамадзян.**

■ **І.В. Рыпінскі,**
*часова выконваючы абавязкі начальніка АПП Глыбоцкага РАУС*

Зараз на вуліцах можна сустрэць вялікую разнастайнасць ровараў: ад самых сціплых да шматхуткасных спартыўных прыгажуноў. Сваіх "жалезных коней" веласіпедысты пакідаюць ля крамаў, пад'ездаў дамоў, гандлёвых павільёнаў, на ноч – на лесвічных пралётах шматкватэрных дамоў. Вядома, гэта не пакідае абыякавымі зламыснікаў і падштурхоўвае іх да ўчынення крадзяжу.

За сем месяцаў 2015 года на тэрыторыі г. Глыбокае і раёна зарэгістравана пяць крадзяжоў ровараў, два з якіх учынены ў сельскай мясцовасці, а тры – у г. Глыбокае (адзін ровар выкрадзены ад пад'езда дома, два – са двароў, адзін з пад'езда дома і адзін ад бара "Бонус" г. Глыбокае). Прычынамі ўчынення дадзеных крадзяжоў паслужылі асабістая бестурботнасць уладальнікаў. Усе крадзяжы, што ўчыненыя дома, сталі магчымымі шляхам свабоднага доступу, у выніку невыканання ўладальнікамі "жалезных коней" элементарных мераў засцярогі.

Шмат хто з гарадскіх уладальнікаў ровараў пасля паездак па горадзе не абцяжарваюць сябе транспарціроўкай "жалезнага каня" ў кватэру або на балкон, лічачы, што могуць захоўваць ровары ў пад'ездах жылых дамоў. Неабходна звярнуць увагу такіх грамадзян на тое, што яны тым самым парушаюць правілы пажарнай бяспекі. На шляхах эвакуацыі, да якіх адносяцца памяшканні агульнага карыстання жылых шматкватэрных дамоў, забаронена захоўванне і размяшчэнне мэблі, маёмасці, асабістых рэчаў. Месца ровара ў гаражы, іншым гаспадарчым памяшканні альбо ўнутры кватэры.

Каб абараніць свой ровар ад злодзеяў, перш за ўсё гаспадар павінен клапаціцца пра бяспеку свайго транспартнага сродку. Цяпер існуе мноства нескладаных і недарагіх спосабаў усталяваць супрацьугонныя прылады і захаваць свайго двухколавага сябра. Ровар ад крадзяжу можа засцерагчы не толькі спецыяльны трос з замыкальнай прыладай, але і просты металічны ланцуг, закрыты за звёны звычайным навясным замком і прымацаваны да любога нерухомага прадмета: дрэва, слупа, да парэнча на лесвічнай пляцоўцы. Такія простыя прыстасаванні здольныя зберагчы ад страты ўлюбёнага сродку перамяшчэння. Нават на нязначны час Вашай адсутнасці прышпільвайце ровар да статычнага прадмету.

**У выпадку выяўлення крадзяжу неадкладна звяртайцеся ў міліцыю на тэлефоны** 102, 2-27-02.

# Паляванне на бабра

**Рачны бабёр – спрадвечны насельнік рэк і азёр Беларусі. У мінулым – важны аб'ект палявання, абмену і гандлю. У XVI стагоддзі Статутам Вялікага Княства Літоўскага вызначаліся некаторыя меры па ахове бабра, аднак драпежніцкі промысел дзеля футра і бабровай струі абумовіў хуткае змяншэнне натуральных запасаў. У 1929 годзе ў Беларусі было вядома ўсяго 54 месцы пражывання баброў, у якіх налічвалася каля 300 асобін.**

■ **В.Е. Катовіч,**
*інспектар Глыбоцкай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

У цяперашні час бабёр у Рэспубліцы Беларусь стаў распаўсюджаным відам. Будаўнічая дзейнасць баброў спрыяе багаццю жывёльнага свету ў прылеглых угоддзях. Бабровыя плаціны перашкаджаюць распаўсюджванню лясных пажараў. Іншымі словамі, бабры аднаўляюць гістарычную справядлівасць, спрыяючы другаснаму забалочванню тэрыторыі, у той час, як чалавек бяздумна асушваў балотныя масівы. У гэтым роля бабра станоўчая і няма неабходнасці гэта аспрэчваць.

Аднак недастатковае выкарыстанне рэсурсаў рачнога бабра прывяло да перанаселенасці асноўных месцапражыванняў жывёл і забяспечыла засяленне гэтым відам нават не ўласцівых для іх пражывання вадасцёкаў. Таму перасяленне баброў з аб'ектаў меліярацыі ў іншыя вадаёмы немэтазгодна. Бабры, якія вельмі размножыліся, пачалі прыносіць некаторую шкоду народнай гаспадарцы. У першую чаргу гэта тычыцца сельскагаспадарчых угоддзяў, дзе з-за будаўнічай дзейнасці бабра адбываецца падтапленне некаторых участкаў і іх забалочванне. Акрамя таго, у выніку сваёй жыццядзейнасці бабры прычыняюць шкоду гідратэхнічным збудаванням (руйнуюць берагі, дамбы, дарогі і т.п., забіваюць шлюзы, выкарыстоўваючы іх у якасці плацін) і ўплываюць на гідралагічны і гаспадарчы рэжым штучных вадаёмаў.

У затопленых участках лесу ўсыхае драўнянахмызняковая расліннасць. Акрамя гэтага, бабёр у вялікай колькасці падгрызае каштоўныя пароды дрэў (дуб, клён, вяз), а каскад плацін перашкаджае натуральнаму нерасту рыбы. Такім чынам, з каштоўнага пушнога віду ён ператвараўся ў шкодніка.

У цяперашні час каштоўнасць бабра як пушнога віду значна знізілася з-за нізкіх коштаў на мех. У мінулым шкуры бабра выкарыстоўваліся для вырабу каўняроў, шапак, жаночых футравых вырабаў. Струя бабра шырока ўжывалася ў парфумернай прамысловасці, медыцыне і ветэрынарыі. Што тычыцца гастранамічных якасцяў мяса бабра, то адказ адназначны: яго трэба выкарыстоўваць у ежу чалавеку. Так, маецца спецыфічны смак і пах, іх можна ліквідаваць, папярэдне замачыўшы мяса ў воцаце або чырвоным сухім віне.

У сувязі з прычыненнем шкоды сельскай і лясной гаспадарцы, унесеныя некаторыя змены ў заканадаўства аб парадку планавання змяншэння колькасці дадзенага віду. Так карыстальнікам паляўнічых угоддзяў пасля правядзення ўліку бабра планаванне змяншэння колькасці павінна ажыццяўляцца асобна на разліковай тэрыторыі пражывання і гідратэхнічных збудаваннях. На гідратэхнічных збудаваннях прадугледжана стоадсоткавая ліквідацыя дадзенага віду. Дазволеныя тэрміны на паляванне бабра ў Беларусі з 1 верасня па 31 сакавіка ў светлы час сутак, спосабы палявання: ружэйны з засады, з падыходу. Пры ружэйным спосабе палявання дазваляецца выкарыстанне наразной паляўнічай зброі з дульнай энергіяй кулі звыш 1500 джоўлей, гладкаствольнай паляўнічай зброі з выкарыстаннем патронаў, што ўтрымліваюць кулю ці карцеч, паляўнічых лукаў і арбалетаў, пры безружэйным спосабе палявання дазваляецца выкарыстанне капканаў №3-7, пастак (акрамя петляў). Паляўнічыя сабакі, якія дазваляюцца пры лоўлі пасткамі: усе пароды, акрамя ганчакоў і хартоў. Карыстальнікі паляўнічых угоддзяў маюць права скараціць тэрміны палявання, а таксама абмежаваць або забараніць прымяненне прылад і (або) спосабаў палявання. У сувязі з гэтым паляўнічым пры атрыманні дазвольных дакументаў на адлоў бабра варта звяртаць увагу на ўмовы палявання, якія названыя ў паляўнічай пуцёўцы на дазвол і ў дазволе на здабычу паляўнічай жывёлы.

Таксама хацелася б нагадаць паляўнічым аб неабходнасці строга выконваць тэхніку бяспекі на паляванні, асабліва пры абыходжанні з паляўнічай зброяй.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі спадзяюцца, што нашы паляўнічыя не будуць парушаць Правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання ў Рэспубліцы Беларусь.

**Удалага ўсім палявання!**

**Аб усіх правапа-рушэннях, якія ўчыня-юцца ў прыродаахоўнай сферы, вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі»** 8-02156-2-86-70 **або на мабільныя тэлефоны:** 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645 -66-78 (**МТС**).



## Віншаванкі

Валянціна Акімаўна Кірылава

**Віншуем цябе з юбілеем!**

Желаем много-много счастья,
Побольше радости, добра,
Улыбок светлых в день ненастья,
Здоровья крепкого всегда.
Живи ты долго, без болезней,
Без огорчений и тревог,
Чтоб только радость и удача
Переступали ваш порог.

*Сястра Зіна і яе сям'я*

